# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ.

№ 50 (563) ГОД XI БЕЛАСТОК, 11 СНЕЖНЯ 1966 г. ЦАНА 60 ГР.


**УЖО ЗА ТЫДЗЕНЬ**

Вялікі чытальніцкі конкурс

## З ЖЫЦЦЯ БГКТ

### ПЛЕНУМ ГП БГКТ

27 лістапада адбылося пленум ГП БГКТ. Галоўным заданнем яго было ацаніць свой орган «Ніву». Член прэзідыума ГП Аляксандр Баршчэўскі выступаў з дакладам, у якім ахарактарызаваў публікацыі «Нівы», падкрэсліў станоўчыя іх бакі і звярнуў увагу на недахопы. У дыскусіі над «Нівай» забрала голас 16 асоб.

Як докладчык так і дыскутанты гаварылі аб тым, што «Ніва» ў апошніх гадах значна павысіла ўзровень.

Да станоўчых бакоў, паводле даклада і ўдзельнікаў пленума залічваецца тое, што «Ніва» мае свой твар, што шырока піша аб беларускім асяроддзі, што існуе літаратурная старонка. Новасцю ў «Ніве» з'яўляецца «Клуб ліцэіста». На гэтай старонцы прабуе сваіх сіл моладзь. Яна будзе павялічваць лік членаў літаратурнага аб'яднання. Падкрэслівалася на пленуме, што журналісты «Нівы» павысілі сваё прафесіянальнае майстэрства, што «Ніва» стала пачытнай, у многіх паштовых раёнах займае першае месца па колькасці падпісчыкаў.

Адначасова звярталася ўвагу і на некаторыя недахопы часопіса, да якіх можна, між іншым, залічыць тое. што замала друкавалася матэрыялаў аб аматарскім руху, што пажаданым было б пашырыць лік вясковых карэспандэнтаў. Настаўнікі звярталі ўвагу на хібы ў матэрыялах для V і VIII класаў, якія ў «Ніве» і «Зорцы» перадрукоўваюцца з падручнікаў да навучання беларускай мовы, якія не выйшлі яшчэ з друку.

У сваіх выступленнях журналісты «Нівы» расказалі аб некаторых цяжкасцях звязаных з іх прафесіянальнай работай. Многа часу прысвяцілася таксама пытанню пашырэння ліку падпісчыкаў «Нівы».

Даклад Прэзідыума ГП і выступленні ўдзельнікаў пленума забавязваюць рэдакцыйны калектыў павышаць змястоўнасць публікацый у «Ніве», шырэй інфармаваць аб дзейнасці БГКТ, папулярызаваць перадавых людзей з усіх галін нашага жыцця, у тым ліку і дзеячоў БГКТ, настаўнікаў, асабліва тых, якія вучаць беларускай мовы, не занядбоўваць збірання і публікавання мясцовага фальклору, шырэй прапагаваць аматарскі рух і польска-беларускія культурныя сувязі і г.д.

Дыскусія аб «Ніве» закончылася ўручэннем тром найлепшым карэспандэнтам «Нівы» (Уладзіміру Хоміку, Сцяпану Жужалю і Янку Цялушэцкаму) рэчавых узнагарод. Грашовыя ўзнагароды прызнаны таксама тром працаўнікам пошт (у Рыбалах, Ласінцы і Пасынках) за добрыя вынікі ў распаўсюджванні нашага часопіса.

Другім пунктам парадку дня была інфармацыя сакратара ГП Уладзіміра Юзвюка аб заданнях БГКТ у асенне-зімовы перыяд.

У дыскусіі над гэтай справай найбольш гаварылася аб членскіх складчынах, якія ў паасобных аддзелах слаба аплочваюцца, аб недастатковым росце нашай арганізацыі, аб працы паасобных аддзелаў.

У снежні адбудуцца канферэнцыі ў аддзелах, да якіх актыў БГКТ павінен добра падрыхтавацца і выпрацаваць напрамкі культурна-асветнай працы ў зімовы перыяд.

М.С.

### НОВЫЯ ЧЛЕНЫ БГКТ

Ад месяца верасня Варшаўскі аддзел БГКТ пабольшыўся на 33 асобы і зараз налічвае ён 211 членаў. (мх)

ДА 75-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ



## ПАСЛАНЕЦ НЕБА

Максім Багдановіч (9.XII.1891 — 25.V.1917) найдасканальшы з беларускіх паэтаў. Паэт, якому можа быць прысвоена званне літаратурнай школы, і творчасць якога можа быць параўнана з палацам, у якім знойдзем залу фальклорную, гістарычную, гарадскую, сялянскую... залу «кахання і смерці». Бадай што няма ў беларускай літаратуры другога пісьменніка, які закрануў бы ў сваёй творчасці так шырокі дыяпазон праблематыкі, як Багдановіч. Але толькі крануў, з характэрнай для імпрэсіяністаў схільнасцю суб'ектыўнага і асабіста-лірычнага адлюстравання пэўных, часта паверхнасных, але як жа характэрных для данай з'явы рыс. Якая зала ў дзівосным замку паэзіі Багдановіча найпрыгажэйшая? Няма тут згоды між літаратуразнаўцамі, што падабаецца адным, не адказвае іншым. Але амаль усе яны згодны ў ацэнцы галоўнай схільнасці Багдановіча — яго імкненне да прыгажосці. Ужо дарэвалюцыйны беларускі крытык Лявон Гмырак пісаў, што душа Багдановіча шырока адкрыта для ўсякага хараства. Гэтую любасць паэта да прыгажосці падкрэсліваюць усе пазнейшыя даследчыкі. У перакананні Гарэцкага ні нацыянальныя ні сацыяльныя элементы, «не складаюць галоўных азнак яго літаратуры». Паводле Карскага Багдановіч «затрагивает и общечеловеческие мотивы, изображения их как поэт чистого искусства для искусства». Падобную думку паўтарае і Гартны, сцвярджаючы: «у яго вершах не трэба шукаць ні грамадскіх матываў, ні рэвалюцыйнага настрою, ён стараецца быць паэтам чыстага хараства».

Аўтары гэтыя не разумелі, што прыгожае можа быць і нацыянальным і грамадскім. Уніклівы Багдановічазнаўца Замоцін заўважыў, што ўся творчасць Багдановіча была прынесена паэтам да ног прыгожай Дамы — Беларусі.

Рускі літаратуразнаўца Клейнборт песімістычныя настроі ў творчасці Багдановіча звязваў з атмасферай перыяду рэакцыі ў рускай імперыі. Сцвярджаў ён таксама, што Багдановіч нацыяналізаваў на беларускай глебе ўсё, што было найлепшае ў агульначалавечай культуры.

У 30-тыя гады, калі прыгожае атаесамлівалася з варожым і антынародным, два афіцыйныя крытыкі таго часу Л. Бэндэ і А. Кучар знайшлі месца для Багдановіча сярод буржуазіі. «М. Багдановіч, — пісалі яны, — з'яўляецца найбольш яскравым прадстаўніком беларускай буржуазіі перыяду пасля 1905 года да Кастрычнікавай рэвалюцыі». У іншай публікацыі Л. Бэндэ сканкрэтызаваў свае закіды наступным чынам: «Нацыяналізм Багдановіча таксама фаталістычны, як і ўвесь яго святапогляд Фаталістычным нацыяналізмам прасякнуты амаль усе яго вершы на сацыяльныя тэмы. У вершы «Слуцкія ткачыхі», у якім прыгожым ткачыхам Багдановіч надае сваю ўласцівасць буржуазнага эстэта, гэты фаталістычны нацыяналізм вельмі ярка выяўляецца».

Зразумела, што гэта ўжо быў не аналіз творчасці паэта, а толькі вайна з ім, вайна амаль 20-цацігадовая, вайна,

(Працяг на стар. 5)

## ДБАЕМ, НЕ ДБАЕМ!

Вясковыя лекары, відаць не маюць у нас лёгкага хлеба. У Беластоцкім ваяводстве існуе 141 пунктаў аховы здароўя, на 171 патрэбных, — менш на 30. Прытым, толькі кожны чацвёрты пункт мае больш-менш адпаведны будынак, рэшта не жыве, а гнездзіцца па розных хатах і звалістых будынінах перадваеннай даты. Што горш, няма магчымасцей будовы новых будынкаў, не гаворачы ўжо аб стварэнні новых пунктаў. Бачыў я «мапку» мясцовасцей, у якіх трэба стварыць пункты. Пераважна, у глухіх аколіцах. Вядома, найбольш такіх аколіц у нашай старонцы.

Гайнаўскі павет падобны да пустыні. Пункты аховы здароўя існуюць тут толькі ў мястэчках, калі не лічыць вёскі Дубічы Царкоўныя, дзе працуе лекар і медсястра. У гэтым павеце на аднаго дэнтыста выпадае амаль восем тысяч асоб! Помніцца мне гутарка з кленіцкім фельчарам. Быў ён ашаломлены тым, што дзевяноста і больш працэнтаў мясцовых дзяцей мае нездаровыя зубы, хворыя прухніцай, гэтай страшнай хваробай, якая пазбаўляе чалавека зубоў без пары, без сівых валос. Тым часам, у Польшчы не адчуваецца, каб было замала дэнтыстаў. Знаходзяцца такія з іх, што хацелі б працаваць і ў нас, але мы адпіхаем іх ад сябе. Не. не таму, што страшна рваць зубы. Нашы павятовыя начальнікі лічаць, што найважнейшае, каб задбаць аб лекара, аб кватэру яму, а на дбанне аб дэнтыста не хапае ўжо ім як бы і сіл... Дэнтыст, не першая патрэба?

Там, дзе павятовыя ўлады думаюць аб здароўі людзей, а радныя талкова шумяць, усё выглядае цалкам іначай. Напрыклад, у найбяднейшым з найбяднейшых Сакольскім павеце. Тут не толькі ў два разы больш дэнтыстаў і лекараў, чым на Гайнаўшчыне, але нават дайшло да збудавання грамадскім чынам пункта аховы здароўя ў Разадранцы.

У ваяводскім Аддзеле аховы здароўя гавораць аб Станіславе Зіноўка, намесніку старшыні павятовай рады ў Саколцы, які чыніць стрымгалоўныя стараннi, каб купіць палацык у Мішкеніках каля Бабікоў і адкрыць там яшчэ адзін пункт аховы здароўя; гавораць аб Аляксандру Чужу, старшыні Дуброўскай рады. Вялікая радасць лекарам, якія бачаць, што іх зразумелі і дацанілі ідэю здароўя! Як не цешыцца, калі і гандлёвыя арганізацыі, як ПЗГС, пачынаюць пераймацца гэтым. Пішу, што пачынаюць, бо пакуль усяго адзін Гайнаўскі ПЗГС «Самапомачы» і яго прэзас інж. Кастусь Майсеня пераймаецца. Хіба створыць спулдзельні здароўя ў Кленіках, Новаберазове, Старым Ляўкове. У Старым Ляўкове, бадай пэўная справа, бо фігуруе яна ўжо ў ваяводскіх планах на 1970 год... Зрэшты, найляпей ведаюць ляўкоўцы.

Беластоцкія кіраўнікі аховы здароўя маюць надзею, што за чатыры-пяць год удасца ўладкаваць столькі лекараў, каб стварыць тамтых патрэбных 30 пунктаў аховы здароўя. Ці ўдасца?

Разам з тым моцна думаецца над тым, каб стварыць некалькі міжпавятовых

(Працяг на стар. 4)

УВАГА, БЕЛАРУСКІЯ АЎТАРЫ!

## Рыхтуецца новы альманах

**Як мы ўжо інфармавалі, ГП БГКТ рыхтуе да друку новы нумар літаратурнага альманаха «Белавежа». У сувязі з гэтым звяртаецца яно да ўсіх беларускіх аўтараў у Польшчы з просьбай дасылаць у ГП БГКТ свае творы (вершы, апавяданні, сцэнічныя творы і г.д.) у тэрміне да 31.I.1967 г.**

**Адначасова ГП БГКТ паведамляе, што ў першую чаргу будуць друкавацца творы дагэтуль нідзе не публікаваныя. У выключных выпадках могуць быць змешчаны матэрыялы публікаваныя ў «літстаронцы», у ніякім выпадку — друкаваныя ў кніжных выданнях ГП БГКТ.**

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

СВЕТ | БССР | ПОЛЬШЧА | ВАЯВОДСТВА

## СВЕТ

### А. КАСЫГІН У ФРАНЦЫІ

Цяжка пісаць аб выніках афіцыяльнага візіта Старшыні Савета Міністраў СССР, бо ён працягваецца, калі аддаем наш нумар да друку. Першыя водгукі сведчаць аб «духу» гэтай паездкі. **А. Касыгін** быў прыняты з усімі ўрачыстасцямі і ўшанаваннем, якія належаць галаве дзяржавы. Першыя размовы, праведзеныя з **дэ Голем**, сведчаць аб тым, што ахапілі яны не толькі вузкі круг двухбаковых суадносін. Яны прасачылі міжнароднае становішча, зварочваючы перад усім увагу на сітуацыю ў Паўднёва-усходняй Азіі і Еўропе. Нямецкая праблема цікавіць не толькі таму, што між Масквой і Парыжам у гэтай справе ёсць разыходжанні поглядаў (Францыя не прызнае ГДР), але ў пэўным сэнсе знайшлі водгук справы адраджаючагася нацыяналізму ў ФРГ.

### ВЯЛІКАЯ КААЛІЦЫЯ

Кізінгер, які даўжэйшы час выхоўваўся ў гітлераўскай партыі і быў, прынамсі, не пасіўным яе членам, з'яўляецца шэфам заходнегерманскага ўрада. Зараз Кізінгер — прадстаўнік ЦДУ. Яго намеснік, віцэ-канцлер Брандт (СПД) — антыфашыст, які, быўшы на эміграцыі, змагаўся супраць фашызацыі сваёй краіны. Дакладней гаворачы, **антыфашыст Брандт будзе намеснікам экс-гітлераўца Кізінгера.**

Усё ж трэба памятаць, што 80 дэпутаваных, якія належаць да СПД і ЦДУ, не выразілі свайго даверу новаму канцлеру. А гэта ўжо факт, над якім нельга не застанавіцца.

### МАРШАЛ САКАЛОЎСКІ АБ БІТВЕ ПАД МАСКВОЙ

У сувязі з 25-ай гадавінай бітвы пад Масквой адбылася ў Маскве прэс-канферэнцыя. На пытанні карэспандэнтаў адказваў маршал СССР **В. Сакалоўскі**. На пытанне аб **ролі Сталіна** ў кіраванні ваеннымі аперацыямі адказ быў наступны: **Сталін арыентаваўся ў ходзе ваенных дзеянняў, штодзённа размаўляў з камандуючымі франтамі, збіраў інфармацыі аб існуючым становішчы і даваў указанні. Галоўны вярхоўнакамандуючы застаўся ў Маскве практычна сам. Генеральны штаб Савецкай Арміі змяшчаўся ў Калузе.**

### ПАТРАБАВАННІ ПРАФСАЮЗАЎ ФРГ

Новы ўрад ФРГ у бліжэйшыя дні мае прыняць шэраг сур'ёзных рашэнняў у бюджэтных справах. У сувязі з гэтым трэба спадзявацца завастрэння сітуацыі на фронце ўнутранай палітыкі ФРГ. **Заходнегерманскія прафсаюзы** ўжо выказалі свае **патрабаванні ў адносінах да новага ўрада. Патрабуюць яны перад усім замарожання і паступовага паменшвання выдаткаў на ўзбраенне. Дамагаюцца таксама палітыкі аслаблення напружання і нармалізацыі суадносін з сацыялістычнымі краінамі.**

А.К.

## БССР

### ПЛЕНУМ

Адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі. Даклад меў сакратар ЦК С. Прытыцкі. Назва даклада: «Аб задачах партыйных арганізацый КПБ па павышэнню адказнасці камуністаў за выкананне патрабаванняў Статута КПСС».

У дыскусіі выступалі, між іншым, першыя сакратары абкомаў КПБ — У. Міцкевіч з Гродна, У. Мікуліч з Брэста, сакратар Маладзечанскага райкома КПБ — У. Быкоўскі.

### М. ТАНК

Адбыўся пленум праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, на якім выравана, між іншым, скасаваць пасаду старшыні праўлення і ўвесці пасаду першага сакратара праўлення.

Першым сакратаром праўлення выбраны Максім Танк.

### ДЭЛЕГАЦЫЯ

Па запрашэнню ЦК Сацыялістычнай партыі Германіі выехала ў Берлін дэлегацыя партыйных работнікаў КПСС для азнаямлення з праблемамі партыйнага кіраўніцтва сельскай гаспадаркай у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы. У складзе дэлегацыі знаходзіцца другі сакратар ЦК КП Беларусі Ф. Сурганаў.

### ПРОСЬБА

На старонках мінскай газеты «Советская Белоруссия» апублікавана пісьмо З. Бліскоўскага, які ў 1944 годзе, будучы ў Валілах, каля Гарадка, і ў Беластоку, чуў аб многіх савецкіх дзецях, уратаваных мясцовымі людзьмі. Успамінае ён, што ў Супраслі трыццаць мясцовых сем'яў усынавілі савецкіх дзяцей, ратуючы іх ад гібелі. Бліскоўскі просіць адгукнуцца на яго пісьмо і паведаміць аб лёсе ўратаваных дзяцей.

### ЭЛЕКТРЫЧКА

Чыгуначная лінія з Мінска да Маладзечна ўжо электрыфікаваная. Цяпер са сталіцы ў Маладзечна едзецца ўсяго адну гадзіну і дваццаць мінут.

### ДВАЦЦАЦІГОДДЗЕ

Калектыў мастакоў Брэста днямі адзначыў дваццацігоддзе з часу заснавання філіяла Саюза мастакоў БССР.

### МУЗЕЙ

Беларускія шклозаводы маюць багатыя мастацкія традыцыі. Што больш, археалагічныя раскопкі ў Полацку наводзяць на думку, што шкляныя майстэрні на Беларусі існавалі ўжо ў XI—XII стагоддзях.

Вытворчасць шкла ў Расіі датуецца ад 1635 года, калі цар Міхаіл даў прывілею гарматнаму майстру Елісею Козэту на пабудову шклянага завода паблізу Масквы. Тым часам, яшчэ ў 1 600 годзе беларускія гутныя майстры з Шыдловіц выраблялі шкло.

Беларускія спецыялісты прапануюць стварыць музей шкла, які несумненна стаў бы важнай культурнай падзеяй на Беларусі.

(С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### «БАРБУРКА»

Гарнякі надзвычай урачыста адзначалі сваё свята «Дзень Гарняка». На ўрачыстасці прыбыў першы сакратар ЦК ПАРП Уладзіслаў Гамулка. Дзень Гарняка — гэта не толькі свята, але і падсумаванне дагэтуляшніх вынікаў гарняцкіх прамысловасцей.

У гэтым годзе гарнякі дадуць нашай гаспадарцы 121,8 мільёна тон вугалю, г.зн. 300 тысяч тон больш, чым было запланавана. Гэта дазволіць поўнасцю забяспечыць патрэбы насельніцтва гарадоў і вёсак, прамысловасці, а таксама значна павялічыць колькасць вугалю на экспарт. У 1961—1966 гадах экспарт каменнага вугалю павялічыўся з 17,1 да 22 мільёнаў тон у год. У асноўным наш вугаль імпартуюць СССР, ГДР, Чэхаславакія, а таксама Францыя, Італія і Японія.

### СПАЛУЧАЮЦЬ ГАСПАДАРКІ

У Прудніцкім павеце наглядаецца вельмі карысная з'ява спалучэння індывідуальных гаспадарак. Больш 200 уласнікаў гаспадарак, якія паходзяць з сямейных падзелаў і якія маюць супольныя забудовы, адмовіліся са сваіх частак на карысць аднаго з членаў сям'і.

Былыя ўласнікі атрымалі малыя зямельныя ўчасткі, на якіх будуюць сабе рабочыя домікі. Гэтыя людзі пераважна працуюць у прамысловасці, а зямля з'яўляецца другой крыніцай іх утрымання. Павятовыя ўлады ў такіх выпадках старающца як найбольш дапамагчы пры афармленні спадчынных фармальнасцей.

### ПЯТАЕ МЕСЦА

Польшча займае пятае месца ў свеце па прадукцыі веласіпедаў. Па экспарту іх — чацвёртае месца. Заграfactычныя пакупнікі, між іншым, ЗША, ФРГ і Канада вельмі хваляць польскія веласіпеды.

### ПАКУПКА ЗБОЖЖА

Да канца кастрычніка г.г. з сёлетніх плёнаў скуплена 2,2 мільёна тон збожжа, г. зн. на 6,7% больш, чым у тым самым часе мінулага года.

### ПЗУ ПЛАЦІЦЬ

Да канца лістапада каля 750 тыс. сялян заявіла ПЗУ аб стратах у пасевах, будынках і жывёлагадоўлі, якія звязаны са стыхійнымі няшчасцямі. ПЗУ ацэньвае страты больш як на 1,8 мільярда злотых.

### КВАЛІФІКАВАНАЕ НАСЕННЕ

Восенню г.г. гаспадары атрымалі больш 350 тыс. тон кваліфікаванага насення. Гэтая колькасць дастатковая, каб засеяць 35 працэнтаў зямлі, прызначанай пад азіміну. Такі ўзровень прадбачаўся дасягнуць пад канец бягучай пяцігодкі.

### ЕЛКІ

Паводле даных Міністэрства лясніцтва легальнае і нелегальнае зрэзванне ёлак спрыяе абяднненню дрэвастану. Прадбачваецца ўвесці прадукцыю ёлак з пластмасы.

(к)

## ВАЯВОДСТВА

### ПАРТЫЙНЫЯ КАНФЕРЭНЦЫІ

3 снежня г.г. у Беластоку, Сямяцічах і Алецку адбыліся павятовыя справаздачна-выбарныя канферэнцыі, якія падвялі вынікі ўсебаковай дзейнасці партыйных гарадскіх і вясковых арганізацый і выбралі новыя павятовыя камітэты ПАРП.

### ССМ І СПОРТ

Апошняе пашыранае пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення Саюза сацыялістычнай моладзі разглядала дзейнасць сваёй арганізацыі ў развіцці спорту. Высокую ацэнку атрымала ў гэтай галіне арганізацыя ССМ Беластоцкага ваяводства. Яе дасягненні ставілі ў прыклад другім ваяводствам.

### СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ АЛІМПІЯДА

Амаль 11 тысяч маладых сялян прымае ўдзел у курсах сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Яны аб'ядналыя ў 1100 гуртках. Нядаўна ўдзельнікі гэтых курсаў мелі аказію прадэманстраваць свае веды. Сельскагаспадарчыя арганізацыі наладзілі ў Беластоку Ваяводскую алімпіяду сельскагаспадарчых ведаў. У алімпіядзе ўдзельнічала 19 гурткоў і 32 індывідуальна выступіўшых ўдзельнікі. Экзаменацыйная камісія дапусціла да фінальных розыгрышаў 6 гурткоў і 8 індывідуальных удзельнікаў. Першае месца заваяваў гурток сельскагаспадарчай падрыхтоўкі з вёскі Калетнік у Сувальскім павеце.

### БУРАКІ

Беластоцкія гаспадары даставілі ўжо 1 мільён 200 тыс. цэнтнераў «салодкай сыравіны». З Беластока кожны дзень адыходзіць да 16 цукроўняў па 250 вагонаў буракоў. Аказваецца, што найлепшым плёнам могуць пахваліцца сяляне з раёна Шапятова, якія сабралі каля 340 цэнтнераў цукровых буракоў з аднаго гектара.

### ТАВАРЫСТВА СЯБРОЎ БЕЛАВЕЖЫ

7 снежня адбыўся агульны сход Таварыства сяброў Белавежы, на якім абмяркоўваліся формы працы на зімовы сезон і была падрыхтавана праграма святкавання 45-ай гадавіны заснавання Белавежскага нацыянальнага парку. Таварыства гэтае разгортвае даволі жывую і карысную прапагандную працу аб Белавежы і яе прыродных багаццях.

### СЯРЭБРАНАЯ 100-ЗАЛАТОЎКА

Нацыянальны польскі банк паведамляе, што яшчэ толькі да 31 снежня 1966 года можна абмяняць у банку нармальную на сярэбраную 100-залатоўку, выпушчаную дзеля адзначэння 1000-годдзя Польскай дзяржавы. Каб атрымаць права на абмен, неабходна ў ювелірный краме прадаць 70 грам серабра. Могуць быць старыя даваенныя манеты або нейкія другія сярэбраныя вырабы.

(вр)

## Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

NIEDZIELA, 11.XII.

8.30 Politechnika TV. Geometria wykreślna — „Powierzchnie'' cz. III; 9.05 Politechnika TV. Chemia — „Syntetyczne tworzywa organiczne''; 9.35 38 lekcja języka rosyjskiego; 9.55 Politechnika TV. „Odpowiedzi na pytania''; 10.50 PKF; 11.00 Sprawozdanie sportowe; 13.30 Poranek symfoniczny; 14.00 „Ludzie i zdarzenia''; 14.15 „Piórkiem i węglem''; 14.35 „Przemiany'' — Mag. Redakcji Wiejskiej; 15.00 Dla młodych widzów: „Pół wieku lotnictwa'' — telekonkurs; 15.50 Dla dzieci: „Ciężar spojrzenia'' J. Wilkowskiego („Ula i świat''); 16.15 „Buster Keaton znów na planie'' — film USA; 17.10 „Śpiewki stare ale jare'' — program rozrywkowy; 18.00 Teatr Niedzielny. B. Drozdowski — „Komedia z awansem''; 18.55 „Słownik wyrazów obcych''; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Niedzielny program rozrywkowy (Moskwa); 20.45 „Kłopoty z kobietami'' — film fab.; 22.20 Niedziela Sportowa.

PONIEDZIAŁEK, 12.XII.

16.55 Wiadomości dziennika TV; 17.00 Dla dzieci: „Zaczarowany ołówek'' — film; 17.10 Dla młodych widzów: „Rozkosze łamania głowy''; 17.30 „Młodzi w gromadzie'' — („7 milionów młodych''); 17.45 „Meble do naszych mieszkań''; 18.15 Kino Krótkich Filmów; 18.45 „Eureka''; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 — film; 20.15 Teatr TV: „Oszukana'' Tomasza Manna; 21.25 „Na półkach księgarskich''; 21.35 „Rozmowy o współczesności''; 21.55 Dziennik TV.

WTOREK, 13.XII.

9.55 Dla szkół: (kl. IX). Język polski — J. Kochanowski „Odprawa posłów greckich''; 10.25 „Wir'' — film fab. węg.; 11.55 Dla szkół: (kl. V — VI) „Kto zwyciężył'' — („O miejsce wśród ludzi''); 12.25 Przerwa; 16.00 Politechnika TV. Matematyka -- „Przybliżone obliczenia wartości funkcji'' cz. I.; 16.30 Politechnika TV. Matematyka — „Przybliżone obliczenia wartości funkcji'' cz. II; 17.00 Wiadomości dziennika TV; 17.05 Dla dzieci: „Zręczne ręce''; 17.20 Dla młodych widzów: „Zapraszam na wtorek wieczór'' — wizyta u W. Puchalskiego; 17.00 Informator handlowy; 13.00 „Nos dla tabakiery''; 18.25 „Giełda piosenki''; 18.55 Program dokumentalny; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Wir'' — film fab. węg. (Poznań); 21.40 „Panorama Literacka''; 22.10 Dziennik TV; 22.30 Politechnika TV. Matematyka — „Przybliżone obliczenie wartości funkcji'' cz. I; 23.00 Politechnika TV. Matematyka — „Przybliżone obliczenie wartości funkcji'' cz. II.

ŚRODA 14.XII.

10.00 „Skrzydła nadziei'' — film („Dr Kildare''); 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Bezwładność ciał''; 16.05 39 lekcja języka rosyjskiego; 16.25 „Przypominamy, radzimy''; 16.35 PKF; 16.55 Wiadomości dziennika TV; 17.00 Dla młodych widzów: „Klub Pancernych''; 17.30 „Nie tylko dla pań''; 17.50 Wszechnica TV: „Linia i plama'' (Jak patrzeć na dzieła sztuki); 18.25 Sprawozdanie sportowe; 19.00 „Sprawy do załatwienia''; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Na łotewskim wybrzeżu'' — film radz.; 20.20 „Skrzydła nadziei'' — film („Dr Kildare''); 21.10 „Światowid''; 21.40 Mały Teatr TV: Z. Kubikowski „Zamknięty przedział''; 22.35 Kronika Kulturalna; 22.55 Dziennik TV.

CZWARTEK 15.XII.

10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — S. Żeromski „Ludzie bezdomni''; 11.55 Dla szkół: (kl. V) „Opowieść wędrownego kupca''; 15.50 38 lekcja języka francuskiego; 16.10 Kurs Rolniczy: „Bilans paszowy gospodarstwa''; 16.50 Wiadomości dziennika TV; 16.55 Dla dzieci: Kino Ptyś; 17.10 Dla młodych widzów: Sporty zimowe; 17.30 „Raz, dwa, trzy'' — teleturniej rozrywkowy; 18.00 „Medale i detale''; 18.15 „Klub dobrych gospodarzy''; 18.45 „Przegląd muzyczny''; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.15 „Mord w Tokio'' — film fab. jap.; 21.35 „Wartość dyplomu'' — program Red. Młodzieżowej; 22.00 Dziennik TV; 22.20 38 lekcja języka francuskiego (Poznań).

PIĄTEK 16.XII.

11.55 Dla szkół: (kl. XI) Propedeutyka filozofii: „Człowiek i społeczeństwo''; 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „Repetytor'' (Katowice); 16.55 Wiadomości dziennika TV; 17.00 Dla młodych widzów: „Gotowi do zimy'' („Wyprawy TV Przyjaciół''); 17.30 „Lawina'' — film („Bella i Sebastian''); 18.06 „Kryptonim PL''; 18.20 „Wielokropek''; 18.40 Wszechnica TV; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Mazowiecki; 20.15 Łódzki Teatr TV: B. Brecht „Dobry człowiek z Seczuanu''; 21.45 „Rozmowy o książkach''; 21.55 Trybuna Telewizyjna; 22.35 Dziennik TV.

SOBOTA 17.XII.

10.55 Dla szkół: (kl. VII) Biologia — „Świat motyli''; 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Wyżyna Śląska''; 12.25 „Delegat floty'' — film fab. radz.; 16.40 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci''; 16.55 Wiadomości dziennika TV; 17.00 Dla młodych widzów: — telekonkurs „Jak cię widzą, tak cię piszą''; 17.40 „Latawiec'' — film UNICEF; 18.05 „Spotkania z przyrodą''; 18.30 „Jazz w Filharmonii''; 19.00 „Wieczorne rozmowy''; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.05 „Belphegor czyli upiór Luwru'' — film; 20.40 „Przedstawiamy''; 21.30 Dziennik TV; 21.45 Wiadomości sportowe; 21.55 „Testament dr Gordelier'' — film fab. franc.; 23.25 „Czy lubisz Mozarta'' — film CSRS.



На дакладзе маскоўскага вучонага. Справа дакладчык.

# Пра нарадзіны беларусаў і Беларусі

У Беластоку адбылося 14 лістапада г.г. цікавае выступленне маскоўскага вучонага, дацэнта Валянціна Сядова, які меў даклад на тэму: «Паходжанне беларусаў і Беларусі ў святле археалагічных доследаў». Дацэнт Сядоў падзяліўся з прысутнымі сваімі вывадамі па гэтаму пытанню.

На тэрыторыі цяперашняй Беларусі жылі балта-літоўскія плямёны. Недзе каля V ст. пачалі сяліцца тут славянскія плямёны крывічоў, дрыгвічоў, радзімічаў і інш., якія прывандравалі ад захаду і паўднёвага захаду, з даўніх славянскіх сядзіб над Дунаем, верхнім Днястром, верхнім Бугам, Віслай, Одрай, Эльбай. Славяне мяшаліся з балтамі. Адны зразумелі мову другіх, мешанае насельніцтва пачало карыстацца дзвюма мовамі. Можна меркаваць, што перавага славян над балтамі не была вялікай. Толькі ў XIII ст. балты страцілі сваю мову і свядомасць сваёй «іншасці». Славяне і балты зусім зліліся ў адно цэлае; сцэліліся дзве розныя іх культуры, стварыўшы новую, беларускую, культуру.

Усе сталі беларусамі.

Нарадзіны беларусаў і Беларусі звязана з працяглай асіміляцыяй балтаў славянамі, якія засвоілі ад балтаў не толькі тысячы назваў мясцовасцей, рэк, азёраў, урочышчаў, раскінутых па ўсёй Беларусі, Смаленшчыне і, часткова, Пскоўшчыне. Беларускае народнае адзенне вельмі або і зусім падобнае да літоўскага, латышскага. Балта-літоўскі культ змяі ці культ камення быў папулярны на Беларусі яшчэ ў мінулым стагоддзі. Расавае падабенства паміж цяперашнімі беларусамі і літоўцамі, латышамі, цалкам выразнае. У нашых жылах плыве мала менш крыві балтаў, чым славян. Дзякуючы шматвяковаму скрыжоўванню моваў балтаў і славян узнік беларускі акцэнт, а таксама асаблівыя рысы граматычнага ладу нашай мовы, якая прытым прысвоіла вялікі працэнт балтаўскіх слоў.

Словам, **бацькамі беларускай нацыі з'яўляюцца славяне і балты.** Дацэнт Сядоў даказаў, што межы беларускай нацыі п а к р ы в а ю ц ц а з межамі рассялення даўніх балта-літоўскіх плямёнаў, асіміляваных славянамі (крывічамі, дрыгвічамі, радзімічамі). Крывічы, якія сяліліся яшчэ далей, аж да Нявы і верхняй Волгі, асімілявалі пражываючае там угра-фінскае насельніцтва, што ў выніку дало зачатак рускай нацыі ў тамтэйшым раёне. Таму ў нарадзінах беларусаў, рускіх, украінцаў, значэнне мела тое, якую этнічна-чужую групу плямёнаў асімілявалі славяне, якую чужую мову асімілявала славянская мова. Словам, якая была подсцілка для славянскай культуры (субстрат!). У выніку асіміляцыі балтаў узніклі беларусы і іх мова, асіміляцыя ўгра-фінскіх плямёнаў стварыла рускі акцэнт і т.д.

Беларусы сфармаваліся ў адзін час з рускімі, палякамі, украінцамі, і не можа быць мовы аб якім-небудзь істотным уплыве адных на сфармаванне другіх.

Аднатаваў
**Сакрат Яновіч**

# КВАТАРАНТЫ І КВАТЭРЫ

Мінае год ад таго часу, калі мы апублікавалі матэрыял аб вучнёўскіх памяшканнях. Тады сапраўды цяжка было ацаніць абставіны. У справе вучнёўскіх кватэр Міністэрства асветы выдала спецыяльны загад. Гаворыцца ў ім, што гаспадар, які хоча трымаць вучняў на кватэры, павінен мець **спецыяльны дазвол** асветных улад. А ў сувязі з гэтым павінен напісаць прашэнне, абавязацельства, што будзе дбаць аб выхаванне вучня, і даць пасведчанне аб здароўі сваёй сям'і. У гэты час загад толькі ўводзіўся, і таму былі выбачальнымі тыя ці іншыя хібы.

Як справа вучнёўскіх памяшканняў выглядае сёння, пасля гадавой практыкі? Ці многа змянілася? Ці палепшылася? Вось пытанні, на якія аўтар шукаў адказу.

**СТАНОВІШЧА...**

...у гэтым годзе нецікавае, калі не назваць яго дрэнным. Пака што Кураторыя не мае дадзеных (аб кватэрах), таму што не пераслалі інфармацыі аддзелы асветы. А тыя ў сваю чаргу не атрымалі дадзеных ад паасобных школ.
Ёсць паветы, якія да канца лістапада не выдалі ніводнага дазволу на памяшканні вучням. Дык чаму? — запытае шаноўны чытач. Справа не надта складаная. У гэтым годзе ў горадзе Бельску гаспадары абсалютна не хочуць пісаць прашэнняў аб дазволы, а што горшае, не хочуць прыносіць пасведчанняў аб здароўі. Чаму? Мо хворыя? Не. **Каб атрымаць пасведчанне аб здароўі, трэба страціць прынамсі 3 дні,** а па-другое, у мінулым годзе не ўсе мелі дазволы, а вучні так жылі. **Інакш гаворачы, справа не была даведзена да канца.**

**ХТО ВІНАВАТЫ?**

Некаторыя гавораць, што дрэнны загад, таму што не прадбачвае санкцыі тым, хто без дазволу асветных улад трымае вучняў. З гэтым можна і згадзіцца, але не толькі ў тым справа. Перад усім трэба цешыцца, што ўвогуле такі загад ужо ёсць. Горшая справа, што аб загадзе не ведаюць ці не хочуць ведаць іншыя, напрыклад, адміністрацыя ахові здароўя. Разумеем, што ёсць недахоп лекараў, але з другога боку вядома, што і так гэтых людзей трэба прыняць і выдаць пасведчанні. У сувязі з гэтым **чаму б не вызначыць адпаведных гадзін і дзён прыняцця гаспадароў?** Чаму б не ўключыць сюды школьных лекараў і медсясцёр?
Але загад — гэта не толькі справа фармальнасцей звязаных з дазволам. Перад усім гэта справа **адпаведнай выхаваўчай атмасферы на вучнёўскіх памяшканнях.** А калі так, дык неабходныя тут...

**...САЮЗНІКІ.**

Дырэкцыі школ і выхавацелі рабілі, што маглі. Наведвалі кватэры вучняў, размаўлялі з бацькамі і гаспадарамі. Але сапраўды, ці ўсім і без канца можна абцяжарваць настаўнікаў?
Неадлучным і **першым саюзнікам** выхавацеляў у гэтай справе **павінны быць маладзёжныя арганізацыі, якія існуюць у школах — ЗМС і ЗМВ.** Іменна яны павінны быць больш зацікаўлены сваімі калегамі, якія жывуць на прыватных кватэрах. Прынясло б гэта многа карысці ўсім. **Тройкі ці двойкі вучняў маглі б самі наведаць сваіх калегаў.** Безумоўна, не зменяць яны матэрыяльных умоў, хаця прапановы іх могуць быць дапаможнымі ў гэтай справе. Але вучні могуць сачыць за тым, як іх калегі вядуць сябе на кватэры: ці заўсёды сцелюць пасцелі ці сочаць за чысцінёй, ці не замнога і непатрэбна выходзяць гуляць, ці слухаюць гаспадыню, колькі часу прысвячаюць навуцы, **як** уладжваюць суадносіны з разам пражываючымі кватарантамі і т.п. Даведаўшыся аб гэтых справах **класны калектыў** (пад кантроляй выхавацеля) **сам можа вырашаць пэўныя пытанні.**
Другі аспект гэтага — не менш важны. Трэба было б падумаць, каб маладзёжныя арганізацыі не толькі разглядалі дрэнныя паводзіны вучняў, калег. Хтосьці часам павінен стаць і ў абароне вучня. Разыходзіцца аб вучняў, якія сапраўды маюць цяжкія ўмовы, але не заўсёды самі аб іх гавораць выхавацелю. Здараліся ж і такія выпадкі, калі дарослыя кватаранты прымушалі вучаніц стаўляць гарэлку. Нярэдка гаспадары забараняюць уключаць больш светлую лямпачку, або агранічваюць у выкарыстанні святла ці вады. Адна з вучаніц расказвала мне, што не можа ўтрымаць у чысціні пасцелі таму, што калі яна непрысутная, гуляюць па ёй дзеці гаспадыні.
**Адным словам разыходзіцца аб тое, каб вучань-ліцэіст меў свайго і абаронцу — маладзёжную арганізацыю,** так як мы ўзрослыя маем прафсаюзы.

✲

Многа было пытальных знакаў сёння, але ўсе справы прадстаўленыя мною магчымы да зрэалізавання і ўсе яны напэўна прынясуць карысць школе, кватарантам і кватэрам.

**Аляксей Карпюк**

**А. Баршчэўскі і В. Швед**

# Дружба і праца

**ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VIII КЛАСА**

**БЕЛАСТОЦКІЯ ГАДЫ ДОКТАРА ЭСПЕРАНТА**

**(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары)**

Навучыўшыся добра чытаць, Людвік вельмі любіў кніжкі. Найбольшае ўражанне зрабіла на ім біблія. Аднойчы вычытаў у ёй дзіўныя словы: «На ўсёй зямлі была адна мова і адна гаворка. Рушыўшы з Усходу, яны знайшлі ў краі Сенар раўніну і пасяліліся там. І сказалі адзін аднаму: наробім цэглаў і апалім агнём. І сталі ў іх цэглы... І сказалі яны: пабудуем сабе горад і вежу вышынёй да неба: і зробім сабе імя, раней чым рассеемся па твары ўсёй зямлі. І сышоў Гасподзь паглядзець горад і вежу, якую будавалі сыны чалавечыя. І сказаў Гасподзь: вось, адзін народ, і адна ва ўсіх мова; і вось што пачалі яны рабіць, і не адстануць яны ад таго, што задумалі рабіць. Сядзем жа, і змяшаем там мову іх так, каб адзін не разумеў другога. І рассеяў іх Гасподзь адтуль па ўсёй зямлі, і яны перасталі будаваць горад. І таму дадзена яму імя Вавілон, бо там змяшаў Гасподзь мову ўсёй зямлі...»

Ласкавы бог, дабраты якога не падрывала дагэтуль у перакананні хлопца нішто, стаўся цяпер неспадзявана надта суровым, каб яго любіць.
Чытанне зрабіла на Людвіку вялікае ўражанне.

Ва ўспомненым ужо пісьме да Мішо Заменгоф паведамляе, што ў дзесятым годзе жыцця напісаў пяціактавую трагедыю. Яе тэмай была Вавілонская вежа. Стаяла яна не ў краі Сенар, але на рынку Беластока, а будаўнікамі яе былі разнамоўныя беластачане. Наіўная актуалізацыя, яшчэ больш наіўныя метафары і сімвалы, поўныя дзіцячай чуллівасці з'явы адлюстроўвалі абурэнне дзіцяці. Мо' менавіта тады ў непрыкметнага хлапчука нарадзілася думка, якая потым паставіла Доктара Эсперанта ў шэрагу вялікіх гэтага свету?!

У дваццаць шэсць год пазней Заменгоф напіша да Мікалая Афрыканавіча Бароўні, старшыні першай групы эсперантыстаў у Расіі: «Ідэя (агульналюдскай мовы), ажыццяўленню якой прысвяціў я ўсё маё жыццё, з'явілася ў мяне ў... дзяцінстве...»

Маці была ў захапленні ад трагедыі. Марыла аб Эсхілавай кар'еры сына. Нават бацька з прызнаннемківаў галавой. Людвік, натхнёны бацькамі, некалькі месяцаў рыфмаваў на польскай і рускай мовах. Хутка аднак гэтае захапленне ўступіла месца другому, якое ніколі яго ўжо не пакінула. Гэтым намаганнем было зняць «божы праклён» з бедных вавілонцаў, з чалавецтва. Захапленне было вялікае, магчымасці ніякія. У будучыні Людвік Заменгоф гэтак скажа пра тыя часы:

«Гэтае месца майго нараджэння і дзяцінства, надало напрамак усім маім будучым намаганням. Жыхары Беластока складаліся... з рускіх, палякаў, немцаў і яўрэяў. Кожны з гэтых элементаў... быў варожа настаўлены да іншых. У такім горадзе, больш чым дзе-небудзь, чулая натура адчувае цяжар разнамоўнасці і на кожным кроку робіць вывады, што рознасць моў з'яўляецца адзінай або прынамсі галоўнай прычынай, якая раздзяляе людскую сям'ю на варожыя часткі. Выхавалі мяне як ідэаліста, навучылі, што ўсе людзі з'яўляюцца братамі, калі тым часам на вуліцы і панадворку ўсё на кожным кроку гаварыла, што людзі не існуюць, існуюць толькі рускія, палякі, немцы, яўрэі і г.д. Гэта вельмі моцна мучыла маю дзіцячую душу... Пакольկі здавалася мне тады, што дарослыя маюць нейкую ўсемагутную моц — я паўтараў сабе, што калі буду вялікі, неадкладна ліквідую гэтае зло».

Пад уплывам тых гнеўных мерапрыемстваў вавілонскага бога Людвік пачаў «мяшаць мовы», змяняць, перакручваць словы. Не быў ён у гэтым адасоблены: шмат дзяцей рабіла гэтае самае, хоць па іншых пэўна прычынах. Навучыўся дзіўнай мовы Людвік і неўзабаве перагнаў майстраў у карыстанні ёю. Між склады слоў устаўляў нейкі непрыкметны гук, напрыклад, «ля» або «дэ», ці іншы. І ўжо новая мова была гатовай. «Падай мне сшытак» гучала дзівосна: «Ля-па-ля-дай ля-мне ля-сшы-ля-так»; «атрымаў двойку» — дэ-а-дэ-тры-дэ-маў дэ-двой-дэ-ку» і г.д. Адэпт чароўнага мастацтва рабіў усё, каб перагнаць канкурэнтаў у спраўнасці гэтага балбатання. Людвік атрымліваў тут вялікія перамогі. Вынайшоў таксама іншы спосаб перакручвання слоў. Напрыклад, слова «пантофель» гучала ў яго «панфотель» або «тенпофал», дабранач — «браданач» і г.д. З гэтых дзіваў лёгка ўкладаў сказы і бегла карыстаўся імі, рыфмуючы нават.

# АДНА З 6000

За вёскай Фасты, там, дзе жыта кланялася пшаніцы, пад канец 1955 года будаўнікі закончылі пабудову першага фастаўскага сярэднепрадзільнага цэха. Але яшчэ раней газеты, радыё і людзі разносілі па ваяводстве заахвочваючую вестку: патрэбныя рабочыя, прымаюць нават дзяўчат!

У Старое Ляўкова гэтую вестку прынёс Надзін брат, Сяргей. А Надзя зусім нядаўна закончыла пачатковую школу. Вучылася добра, але бацька не мог яе паслаць у горад, не хапала грошай на гарадское харчаванне і гарадскую вопратку. Надзя адважылася і паехала сама ў гэтыя далёкія Фасты, паехала вось толькі так сабе, каб разведаць. Але дамоў ужо не вярнулася. З Фаст разам з першай групай дзяўчат накіравалі ў Бяляву вывучаць прафесію прадзільшчыцы.

Цяпер Надзя ўжо замужняя, завяла ўласную сям'ю і па мужу — таксама тэкстыльшчыку — завецца Авечка. Жыве ў новай кватэры на пасёлку Антонюк у Беластоку. Не толькі яна адна. Найлепшыя фастаўскія рабочыя атрымалі ад завода і горада аж 1300 новых кватэр.

12 красавіка г.г. у Фастах урачыста святкавалі «Дзень тэкстыльшчыка». Надзю Авечка адкамандзіравалі аднак на цэнтральнае ўрачыстае пасяджэнне, якое было наладжана ў горадзе Бельска-Белая. Не выпадкова. Рада Дзяржавы Надзеі Авечка, прадзільшчыцы фастаўскага камбіната, прысвоіла Сярэбраны Крыж Заслугі.

— Сярод 180 прадстаўнікоў розных заводаў тэкстыльнай прамысловасці, якія сабраліся ў Бельска-Белай, я была наймаладзейшай, — успамінае яна.

Крыжоў Заслугі на прыгожыя вочы не даюць. Надзя цяпер пастаянна абслугоўвае амаль 3 машыны, а месячныя планы раўнамерна перавыконвае на 115—120%. Нялёгка гэтага дабіцца. План назначаецца на аснове вымярэння што да мінуты кожнай аперацыі, кожнага кроку. Перш за ўсё вырашае якасць працы. У фастаўскім камбінаце шырока разгортваецца спаборніцтва за тое, каб як найменш было затрат у матэрыяле, каб як найменш, як кажуць прадзільшчыцы, прапусціць «блытаніны». Надзя Авечка і сама атрымоўвае ў тым выпадку добрыя вынікі, і другіх яшчэ часта вучыць. З'яўляецца яна членам спецыяльнай камісіі, якая штораз праверае якасць працы сваіх сяброваk.

У завадскім партыйным камітэце гавораць:

— Таварыш Надзея Авечка вылучаецца сярод другіх рабочых вялікай і шчырай паслужлівасці ў працы, яна заўсёды ахвотна дапамагае другім. Хіба таму таварышы з яе змены сярэднепрадзільнага цэха выбралі Надзею Авечка дэлегатам на гарадскую партыйную канферэнцыю. Проста для яе верась.

Слухаючы гэтых пахвальных слоў, прыпомніўся мне даклад галоўнага дырэктара, падрыхтаваны на дзесяцігоддзе фастаўскага камбіната. Сярод 15-ці асоб найлепшых працаўнікоў Надзя Авечка была названа на шостым месцы. З гэтага ж даклада можна было даведацца, што за 10 год у Фастах вывучыласа розных прафесій звыш 5 500 чалавек. Многія сярод іх прайшлі праз паслужлівыя рукі прадзільшчыцы Надзі Авечка.



...і ў сямейным жыцці.

Сакратар Рабочага савета камбіната гаворыць:

— Таварыш Надзя Авечка адзначаецца арганізацыйнымі здольнасцямі і ўмее выступіць ды проста ў вочы сказаць праўду.

— А што мне маўчаць! — заяўляе Надзя. — Аднойчы майстар не зусім добра прымаў нашу прадукцыю і гэта паменшыла нам вынікі. Дык я яму адразу сказала, што трэба. Два дні майстар гневаўся, а на трэці дзень прыйшоў і кажа: «Чорт з табою, Надзька, хадзі, закурым!» І больш ужо не рабіў на нашу шкоду.

У гэтым годзе ў асноўным закончана пабудова фастаўскага камбіната. Асталася толькі друкарня тканіны. Яе будуць будаваць у 1967 годзе. Фасты каштавалі дзяржаву 1 мільярд 100 мільёнаў злотых, **але ўжо цяпер вартасць гадавой прадукцыі шматразначна перавышае гэтую суму.** У Фастах працуе зараз амаль 6000 людзей. Надзя адна з іх.

**Віктар Рудчык**

фота аўтара



Надзея Авечка у час працы...

## Узнагарода С. Яновічу

*Журы конкурсу для журналістаў на ахову прыроды прызнала, што першае месца ў гэтай акцыі ў 1966 годзе ў Беластоцкім ваяв. заняла бясспрэчна рэдакцыя «Ніва», публікуючы розныя матэрыялы і ў розных формах.*

*Сакрату Яновічу за найбольшую колькасць найлепшых публікацый журы прысудзіла першую грашовую ўзнагароду. Дзве другарадныя ўзнагароды атрымалі журналісты з Беластоцкага радыё і газеты «Наша Весь».* (вл)

# Дбаем, не дбаем!

(Працяг са стар. 1)

бальніц з сотнямі ложак і дзесяткамі высокакваліфікаваных спецыялістаў. Спецыялісты збіліся ў Беластоку — на звыш тысячу лекараў у нашым ваяводстве большая палова іх знаходзіцца ў Беластоку. Людзі едуць па сто кіламетраў да іх. Плануецца стварэнне такой міжпаветовай вялікай бальніцы ў Бельску, якая будзе мець шырокія магчымасці лячэння многіх хвароб, і будуць з'язджацца да яе людзі з паўднёвых паветаў Беласточчыны. Падобныя намеры і адносна Саколкі. Вядомая рэч, што вясковы лекар, гэта таксама чалавек, і не можа быць майстрам на ўсе рукі...

Гэта правільнае разуменне пашырэння аховы здароўя. Аднак стаіць на перашкодзе планаў звычайны людскі эгаізм. Напрыклад, у Крынках. Тамтэйшая раённая бальніца, званая па-мясцоваму шпіталем, стаіць амаль пустая. У ёй сорак ложкаў, з чаго выкарыстоўваецца літаральна некалькі, шэсць ці дзесяць. Марнатраўства? Напэўна, так. Падобныя бальніцы ў іншых мясцовасцях заняты ў сярэднім праз 331 дзён у год, а ў Крынках усяго праз 141 дзень. Адбываецца безупынная апеляцыя да сумлення крынкаўскіх людзей, каб згадзіліся яны наператварэнне свайго «шпіталіка» ў Аддзел сухот лёгкіх Сакольскай Паветовай бальніцы, якая мае раптам 192 ложкі, заўжды занятыя. І лекараў розных спецыяльнасцей. Справа мо і не ў тым, што наглядаецца павелічэнне сухот лёгкіх у людзей. У малой крынкаўскай бальніцы няма лекараў многіх спецыяльнасцей, маючых магчымасці дапамагчы моцна хворым. Няма рознай тэхнікі, лабараторый. Хворы нярэдка страціць тут час, бо вялікія бальніцы завалены, як кажуць. І спазняецца ратунак яму.

Малыя бальніцы з'яўляюцца толькі месцам ляжання хворых, якім можа дапамагчы вялікая бальніца. Можа насунуцца пытанне, ці Крынкі разумна дбаюць аб здароўе, сваё здароўе?

Можна адказаць:

— Маем горшую бяду, чым шуканне адказу на тое, ці Крынкі чыняць разумна, ці не.

Другія зусім не дбаюць: ні дурна, ні разумна. (С.Я.)

Ва ўсіх дзяцей манія гэта па нейкім часе праходзіла. Ва ўсіх за выключэннем Людвіка Заменгофа. Пасля года перакручвання пачаў тварыць новую мову! А толькі энергіі і працы ўкладаў у слоўную гульню, што калі б выкарыстаў гэтыя намаганні на пераадольванне патрабаванняў школы, перасkokваў бы праз некалькі класаў у год. Калі быў сам, мармытаў дзівосны гаворкай, запісваў сшыткі няўмелымі знакамі і формуламі. Зануджваў сяброў і дарослых. Сёстры былі сапраўднымі мучаніцамі яго маніі. Найстарэйшая, Сара, якую асабліва любіў Людвік, падтрымлівала з ім гэтую пастаянную балбатню, але малодшыя, Фаня і Аўгуста, паддаваліся яго камандаванню пасля найбольшага прымусу. Фелікс, дзіцяня яшчэ, зразумела не лічыўся.

Бацька не цярпеў гэтай маніі сына. У Людвіка аднак вырастала яна да памераў сістэматычных і паважных заняткаў, упартага і шляхетнага захаплення. Не спынілася яна нават тады, калі пасля пераходу ў гімназію прыбавілася школьных заняткаў і дамашняй працы над лекцыямі. Бацька, лічачы, што гэтае захапленне перашкаджае Людвіку ў навуцы, энергічна з ім змагаўся. Калі аднад хлопец цяжка захварэў і вымушан быў на год спыніць навуку ў школе крыху змякчаў.

...З кожным днём Людвікам усё больш авалодвала думка: «калі буду дарослы, вынайду супольную мову і схілю ўсе народы карыстацца ёю для іх дабра». У гэтый мары не было аднак, як сам потым напіша, ніякіх акрэсленых планаў. Аб ідэі ўсечалавечай мовы сказа: «Няясна нейк цягнула мяне да яе». У марах аб будучыні, так характэрных хлопцам у гэтым узросце, бачыў сябе толькі як тварца міжнароднай мовы. Калі думаў аб лаўрах, дык менавіта на гэтай ніве, не гледзячы, што ад самага ранняга дзяцінства бацька рыхтаваў яго да прафесіі лекара.

У 1870 годзе спаткала Заменгофаў няшчасце. Памерла хваравітая, далікатная Сара. Людвік балюча адчуў гэту смерць. І хоць у наступным годзе ўбытак у сям'і рэкампенсавала нараджэнне нашчадка — хлопца, якога назвалі Генрыкам — аднак Людвік не мог забыць любімай сястры. Як толькі прыступаў да працы над «мовай чалавечнасці», заўсёды ставала яна яму перад вачыма. Як бы для ўшанавання памяці гэтай першай сваёй вучаніцы і прыхільніцы, яшчэ з большым запалам аддаваўся сваёй працы.

Бацька пачаў думаць аб пераездзе ў Варшаву. У сувязі з гэтым часта паўтараў сыну:

— Вучыся, кінь байкі і гульні! У варшаўскай гімназіі і ўзровень вышэйшы, і патрабаванні вышэйшыя... Замнога часу прысвячаеш глупствам. Займіся мукою, з якой будзе хлеб. Чалавек мае ў жыцці замала часу, каб мог сабе дазволіць на гэтыя забавы.

Бацька і сын не разумелі адзін аднаго.

**Марыя Зюлкоўская**

Урывак з кнігі «Доктар эсперанта»

1. Параўнай апісанне старога Беластока з сённяшнім выглядам гэтага горада.
2. Раскажы пра жыццё ў сям'і Заменгофаў.
3. Ахарактарызуй нацыянальныя адносіны ў старым Беластоку.
4. Чаму Заменгоф імкнуўся да стварэння ўніверсальнай «агульналюдскай» мовы і якія мэты ставіў перад ёю аўтар?
5. Ці мова эсперанта здабыла папулярнасць і зразуменне ў свеце?

**Слоўнік**

Версаль — сядзіба французскіх каралёў пад Парыжам.

Плебей — чалавек з грамадскіх нізоў.

## Што з Дзяржаўным фондам зямлі?

У Бельскім павеце ў 1965—70 гадах будзе праводзіцца ліквідацыя церасполосіцы. Перад усім на тэрыторыі ГРН: Рыбалы, Пілікі, Галады і Грыгоравцы. Тут найбольш дзяржаўнай зямлі і гаспадарак індывідуальных, ад якіх дзяржава пераймае зямлю. Гэтая зямля будзе выдзелена ў адным месцы. Загаспадараванне комплексаў зямлі больш-менш будзе выглядаць так: І. Комплекс Парцава (каля 370 гектараў) прапануюць выдзяліць каля Бельска і перадаць яго аб'яднанню ПГР дзеля арганізацыі ПГР, якога спецыяльнасцю была б гародніна і жывёлагадоўля. 2. Каля 500 гектараў зямлі з увагі на дрэнныя глебы будзе засаджана лесам. 3. Да 346 гектараў канчатковай пастановы няма. Будзе яна залежыць ад Ваяводскага аб'яднання ПГР, якое праўдападобна пакліча новы ПГР. 4. Больш 100 гектараў зямлі ў Вольцы Выганоўскай часткова перакажуць у ПГР Дыдулі, апошнія — пад залесенне.

У суме прадбачваюць скамасаваць 1500 гектараў зямлі з Дзяржаўнага фонду і каля 300 гектараў зямлі з эканамічна занядбаных гаспадарак. Частка зямлі будзе загаспадаравана сельгасгурткамі, каля 1000 гектараў прапануюць прадаць індывідуальным гаспадарам. Апошняе адносіцца перад усім да тых вёсак, дзе зямлі Дзяржаўнага фонду невялікія абшары. (ак)

 

наша вёска

# СУХІНІЧЫ



Сухінічы распалажаны на акраінах Сакольскага павета. Аб Сухінічах у свой час я чуў многа добрага, аб актыўнасці іх мастацкіх гурткоў і грамадскіх арганізацый.

Захацеў я тады перад усім глянуць на Сухінічы так сказаць з узроўню грамады. Інфармуюць мяне аб жыцці Сухінічаў дзве асобы родам з гэтай вёскі: Люся Пуцілоўская — шматгадовы працаўнік ГРН і Ўладзіслаў Курыловіч — аграном Грамадскай рады. Інфармуюць кожны па-свойму: Люся Пуцілоўская расказвае проста і з адкрытасцю, аграном — чалавек, так сказаць, куты на ўсе чатыры ногі — ведае, што «трэба», а чаго «не трэба» гаварыць журналісту, які ў грамадскай радзе ўсё ж такі асобаю чужою.

— Раскажыце аб сельскагаспадарчым гуртку ў Сухінічах, прашу сваіх размоўцаў.

Люся Пуцілоўская тлумачыць:

— Сельскагаспадарчы гурток існуе толькі на паперы. Гэта ўсё «ліпа», не праяўляе ён ніякай дзейнасці.

Аграном Курыловіч бароніць гонару Сухініч. Сапраўдныя праблемы Сухініч лічыць больш уласцівым схаваць для сябе, а рэпарцёра частуючы шаблоннай, справаздачнай «мовай».

— Калі разыходзіцца аб Сухінічы, — тлумачыць, — то іх сельскагаспадарчы гурток праяўляе шырокую і ўсебаковую дзейнасць. Закупіў у гэтым годзе 185 тон вапны, правільна праводзіць рэпрадукцыю насення, рэалізуе праграму аграмінімум. Гурток імкнецца даступнымі яму сродкамі да ўвядзення механізацыі, хаця пакуль што не ўдалося зрэалізаваць пастулатаў гуртка з увагі на палітыку канцэнтрацыі сельскагаспадарчых машын

Пайшоў тады сам я ў Сухінічы, каб на месцы сарыентавацца ў праблемах сухініцкіх сялян. Наткнуўся якраз на прэзаса сельгасгуртка — Аляксандра Сакалоўскага. Прэзас заявіў:

— Якое там у нас «кулка», няма тут аніякага «кулка»! Няма ні машын, ні пячаткі, ні «лігітымацый». Нічога няма. Я калісьці ездзіў на гэтыя сходы ў павет, а цяпер не езджу і нічога не раблю. Машын не даюць, вось што пане.

— Чаму?

— Не даюць. А па-другое, трэба раней унесці ўклад па 50 злотых з гектара і толькі тады можна старацца аб машыны. А ў нас людзі бедныя, плаціць не маюць з чаго.

Зямля тут сапраўды ўбогая і, што найгоршае, кругом нідзе няма аніякага дадатковага заработку. Людзі жывуць толькі са сваіх худых гаспадарак, на якіх гаспадараць старымі адсталымі метадамі.

Тым больш цікавым з'яўляецца факт, што ў Сухінічах даўным-даўно развіваецца багаты мастацкі рух. Сухініцкі драматычны гурток працуе ўжо каля дзесяці гадоў. Працуе прытым надзвычай сістэматычна, не толькі зімою, але і летам выходзіць на вясковую сцэну з пастаноўкамі. Так, напрыклад, у гэтым годзе сухініцкія мастакі-аматары зімою выставілі п'есу «Міхалка», а летам «Гарадскія госці». Выступае драмгурток не толькі ў сваёй, але і ў акалічных вёсках. У развіцці аматарскага руху ў Сухінічах вялікую ролю адыгралі настаўнікі мясцовай школы, а асабліва настаўніца Ліда Андраюк, якая цяпер перанеслася ў Кнышэвічы. Зараз аднак так склалася, што ў Сухініцкай школе працуюць усе новыя маладыя настаўнікі, якія не паспелі яшчэ ўключыцца ў жыццё вёскі. Аматарскі рух аднак існуе надалей. Вялікая заслуга ў тым шматгадовага старшыні гурткоў БГКТ і ЗМВ Люсі Пуцілоўскай і агранома Курыловіча, якія кіруюць гэтым рухам, а таксама сухініцкай молодзі, якая хоча выступаць на сцэне з мастацкім словам.

**Ул. Паўлючук**



...Машын не даюць, вось што, пане.

# Няпэўныя рацыі

Беластоцкі павет падзяляецца ў гаспадарчым сэнсе на дзве выразныя часткі: заходнюю і ўсходнюю. Усходні раён характарызуецца вельмі слабою эканомікаю. Амаль няма тут даходных гаспадарак.

Усходні раён мімаволі застаецца збоку ад грунтоўных перамен у сельскай гаспадарцы павета. У палітыцы павятовых улад найбольш увагі займае заходняя частка павета, дзе існуюць вялікія гаспадаркі, параўнальна высокая культура працы, вынікі якой маюць рашаючы ўплыў на значэнне павета ў ваяводстве. Сельскагаспадарчая тэхніка канцэнтруецца, перад усім, у вёсках такіх грамадскіх рад, як: Яжэва, Тыкацін, Юхнавец, Златорыя, часткова Тыльвічы.

У Беластоку сказалі мне:
— У тыкацінскіх вёсках механізацыя сельскай гаспадаркі адбываецца гладка, як па масле, а ў ялоўскай аколіцы — як па каменнях...

Прычыны такой апініі вынікаюць з таго, што захад павета мае непараўнальна лепшыя землі і няма там цераспалосіцы. Няма палосак. Ва ўсходнебеластоцкіх сельскагаспадарчых гуртках налічана каля двухсот сеялак, якімі ніхто не карыстаецца, бо часта не месцяцца яны на палосках. Іржавеюць сеялкі і прападаюць бескарысна.

Цяпер сельскагаспадарчым гурткам у нашых паласатых вёсках практычна не дазваляецца на куплю новых трактараў з увагі на слабое іх выкарыстоўванне ў сельскагаспадарчых працах. Некалькі дзесяткаў тамтэйшых гурткоў не мае ніводнага трактара, а налічваецца вельмі многа і такіх гурткоў, што нічога не маюць — нават малатарні, не гаворачы ўжо аб малапрыдатных сеялках. Мясцовыя сельскагаспадарчыя гурткі, бывала, купіўшы ўрэшце трактар, займаліся больш транспартам і заробкамі дзе-папала, чым ворывам у полі. Напрыклад, гурток у Звярках дабіўся някепскага абароту.

«Зрабіў» яго трактар, наняты ў малачарню для развозкі малака. Роля гэтага гуртка ў сельскай гаспадарцы Звяркоў, можна сказаць, ніякая. Падобных прыкладаў шмат.

Ва ўсходнім раёне сельскагаспадарчыя гурткі ў большасці не маюць шырокай будучыні. Звязана гэта з невялікімі гаспадарчымі магчымасцямі гэтага раёну, а таксама з палітыкай канцэнтрацыі сельскагаспадарчай тэхнікі ў багатай заходняй частцы павета.

Адбываецца спалучанне некалькіх слабых гурткоў у адзін сельскагаспадарчы гурток, які абслугоўвае патрэбы вёсак, аддаленых не далей чым тры да пяці кіламетраў. Ва ўмовах рэдка заселеных беларускіх аколіц такое спалучанне моцна абмежаванае, перашкаджаюць вялікія адлегласці паміж вёскамі.

У Белявічах пад Гарадком адбылося аб'яднанне тэхнікі навакольных сельскагаспадарчых гурткоў. Сабралася ўсяго нават шмат: пяць трактараў, малатарні, самавязы, усялякая апаратура, сеялкі... Ды ўсё гэта стаіць пад голым небам, пакрай белявіцкай хаты, на вызначаным пляцы. Падобная гісторыя ў Астроўках каля Заблудава.

Патрэбныя шопы. Будуе іх Падляшскае будаўнічае прадпрыемства. За гэты год пабудавала яно ў гэтых аколіцах аж... адну шопу. У Пяньках. Будавала-будавала і не закончыла. У Шымках пачало будаваць, а калі закончыць — невядома. Намерылася будаваць такія шопы ў Гарадку і Нова-Александрове, назвозіла туды крыху будаўнічых матэрыялаў: патрэбных і малапатрэбных. І на тым канец. Падляшскае будаўнічае прадпрыемства тлумачыць сваю непаваротлівасць чым толькі можа: недахопам рук да працы, недахопам матэрыялаў, а прыцiснутае да сцяны валіць віну на інж. Андрэйчука з Інспектарата вясковага будаўніцтва, які запозна аформіў дагаворы на будовы. Мільёнавы капітал, прызначаны на збудаванне шопаў, застаецца нявыкарыстаным. Павятовыя ўлады цвярдзяць, што капіталы прападуць з канцом гэтага года, а ваяводскія ўлады пацешылі мяне, што не прападуць, не. Вінаватых у гэтай справе я далей не шукаў, бо іх не знойдзеш: кожны мае нейкую сваю рацыю.

У Белявічах рашыліся будаваць шопу ўласным спосабам, з пустакоў. Здавалася б, беручы на мужыцкі розум, справа тут простая: збудаваць і будзе добра. Але ўсіх прытрымаў за каўнер павятовы архітэктар, інж. Лубнеўскі. Сваю забарону грунтуе на фармальных законах, якія, дарэчы, кожны інакш разумее. Ваяводскае праўленне сельскагаспадарчых гурткоў шукае спосабу на інж. Лубнеўскага ў ваяводскіх уладах, а ён кажа некаторым, што можаце скардзіцца на яго нават у самога міністра... Тут таксама кожны мае сваю рацыю, сваю падставу. Бой рацый працягнецца невядома колькі, а машыны ў Белявічах стаяць пад голым небам.

**(СЯ)**

# ПАСЛАНЕЦ НЕБА

(Працяг са стар. 1)

якую безагаворачна выйграў Багдановіч.

Нямала прац прысвяцілі Багдановічу і сучасныя беларускія крытыкі. Усё, што напісана аб Багдановічу, на многа разоў перарастае размеры яго творчасці. А гэта ж не канец. Яшчэ многія напішуць аб ім артыкулы, кандыдацкія дысертацыі, здабудуць прызнанне, выйдуць у людзі. Бо прыгажосць ёсць бяздонным акіянам, крыючым дзівосны свет загадак і таямніц, акіянам, які многа выкарміць многіх закаханых у ім людзей.

А выдаў Багдановіч мала. Усяго адзін зборнік «Вянок» — гэты найпрыгажэйшы маніфест беларускай паэзіі, гэтую энцыклапедыю хараства, гэтую дыялектыку прыгажосці.

Што ж яшчэ можна сказаць аб Максіме?

Па-першае, унёс ён у сялянскую плынь беларускай літаратуры ўрбаністычную тэматыку і абдзяліў горад выразнай сімпатыяй.

Па-другое, прызнаваў у мастацтве і літаратуры вялікую ролю форме, якая акрэслівае вагу, значэнне і вартасць твора, якая мае самастойнае творчае значэнне.

Па-трэцяе, умеў убачыць у агульначалавечым беларускае і ў беларускім агульначалавечае.

Па... — выводзіў беларускую літаратуру на той шлях, па якім прайшлі еўрапейскія літаратуры.

Па... — як не адзін з беларускіх паэтаў адчуваў душу беларускага фальклора і перанёс яе істоту ў сваю творчасць.

Па... — верыў у адраджэнне Беларусі і працаваў для гэтага адраджэння.

Па... — даводзіў, што прыгожае ёсць карысным.

Па... — сумаваў, бо бачыў, што чалавек родзіцца, каб умерці.

Па... — Кахаю Багдановіча.

Максім Багдановіч памёр і пахаваны ў Ялце. Газета «Грамада» пасля смерці паэта пісала ў некралозе: «Не ведаў Ён у жыцці чалавечым іншага закону, як хараство, і быў ён у жыцці больш можа чым у паэзіі госцем «высокага неба».

Як шкада, што зямля, у якой ляжыць Багдановіч, і неба, якое схіляецца над Яго магілаю не беларускія.

**Аляксандр Баршчэўскі**

# ТУБЕРКУЛЁЗУ РОБІЦЦА ЦЕСНА

З выпадку штогод прапагаваных у снежні «Дні супрацьтуберкулёзу» падаем некалькі інфармацый.

Барацьба з гэтай страшнай хваробай ідзе штораз лепш. Штопраўда, яшчэ 10 тысяч хворых на туберкулёз маем у Беластоцкім ваяводстве, яшчэ многа новых хворых (якія аб сваёй хваробе нічога не ведалі), прыбывае, але найважнейшыя спосабы барацьбы з хваробай: прышчэпкі і малаабразковыя здымкі сталіся ўсюды даступнымі і масавымі. Да 1970 года паводле планаў Ваяводскай супрацьтуберкулёзнай амбулаторыі кожны жыхар пасля сканчэння 15 год пройдзе лекарскі агляд два разы. Вылавіцца ўсіх нават падазроных у гэтай хваробе. Зразумела, людзі самі павінны такой акцыі памагчы. Як вядома, усе супрацьтуберкулёзныя агляды і само лячэнне, лякарствы з'яўляюцца для ўсіх бясплатнымі. Людзі часта аднак нядбайна адносяцца да акцыі, не прыходзяць на прасвятленне, хворыя перарываюць лячэнне і гэтак далей.

9 рэнтгенаўскіх рухомых амбулансаў з добрай апаратурай безупынна аб'язджаюць вёскі Беласточчыны, у кожным павеце працуе спецыяльная парадня са спецыялістамі - лекарамі. Барацьбу туберкулёзу выдаем на ўсіх франтах, пераможам небяспечнага ворага.

Аптымістычна прадстаўляецца справа з дзяцьмі да 15 год. Тут прышчэпкі BCG і школа, якая наглядае за сістэматычнымі праверкамі, гарантуюць, што новае пакаленне вырасце без туберкулёзу, а па крайняй меры будзе яго менш. Настаўнікі, трэба сказаць, і ў гэтай справе ў сваіх школах, сваім і нашым дзецям, робяць як жа штодзённую ў настаўнікаў, добрую рэч. (вл)

## Белавежскія гарцэркі

**У Белавежы існуе дзённая школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Вучацца ў ёй сялянскія дзеці з многіх вёсак Гайнаўскага павета.**

**У гэтым годзе ў школе сарганізавалі гарцэрскую дружыну, якая налічвае 17 гарцэраў. Дружыновай з'яўляецца вучаніца другога класа Эва Капусьнік. Сваім патронам белавежскія гарцэры абралі маладую рэвалюцыянерку Ганку Савіцкую, якая пала ад фашысцкіх куль.**

**Дружына намагаецца здабыць уласны гарцэрскі сцяг. Дзеля гэтага белавежскія гарцэры збіраюць жалуды і дастаўляюць іх у ГС. За кожны кілаграм жалудоў атрымоўваюць па 2 зл. Грошы адкладаюць на фонд абсталявання ўласнага сцяга.** (вр)



 

# ТРЫБУНА чытачоў

### КРЫТЫКУЮ «МЕЛАНХОЛІЮ» І НЕДАКЛАДНАСЦІ

Мне выдаецца, што ў вершы І. Чыквіна «Меланхолія» змешчанага ў № 45(558) «Нівы» нешта не «грае». Таму пішу крытычнае слова ў яго адрас:

І. Чыквіну

**Калі надыходзіць на цябе паволі**
**Прышлыў чарговай меланхоліі**
**Бяжы хутчэй у сена спаць**
**«На беларускім слове сенажаць»**
**Чытая творы народ шэры**
**Не дае сабе ён веры**
**І дзівіцца і крывіцца**
**Што людзі маюць дар**
**Здабываць не чырванеўшы**
**На беларускім слове ганарар.**

**К. П.**

Далей. Здымкі Ул. Паўлючука вельмі прыгожыя, але маюць яны дзіўныя назвы, напрыклад, у № 46 (557) «Нівы» «Адзінокая восень». Нідзе не відаць, што гэта восень і што яна адзінокая. А зноў у № 39 (552) здымак з подпісам «За плугам». Калі Паўлючук так моцна абмешчанеў, што не адрознівае плуга ад бараны, дык павінен быў хоць спытаць селяніна, што ён робіць.

І яшчэ далей. Хаця я за слабы крытычна дыскутаваць пра творы такіх аўтараў як С. Яновіч, але на сёе-тое хачу звярнуць увагу. Вось апавяданне ў № 45 (558) «Нівы» С. Яновіча «Далейшае жыццё Манькі і яе смерць».

Сябра Яновіч! Не толькі адной Маньцы вайна пачалася ў нядзелю раніцай. І дзіўна, што ў такую страшную хвіліну ёй убілася ў галаву тое, што яна «не накарміла свіней».

Зараз так многа пішуць пра культуру (асабліва ў «Ніве») — чытач з'яўляецца прыдзірлівым і патрабавальным.

**К. Патэльскі**
Крушыняны

### ШТО ЗРОБЛЕНА

Справаздачна-выбарная павятовая канферэнцыя ПАРП у Саколцы падсумавала двухгадовы перыяд сваёй дзейнасці і накрэсліла напрамкі працы ў новай кадэнцыі.

Пад партыйным кіраўніцтвам павет зрабіў яшчэ адзін крок наперад у сваім развіцці. Ураджай асноўных чатырох збожжавых культур пабольшыўся на 3,5 цэнтнеры з гектара, бульбы на 27 цэнтнераў. Загаспадаравана ў гэтым часе 1722 га зямлі, праведзена меліярацыю на 1500 га паш і сенажацяў, арганізавана 28 новых сельскагаспадарчых гурткоў і 45 гурткоў вясковых гаспадынь. У тры разы пабольшылася на Сакольшчыне колькасць трактараў, у 69 вёсках вядзецца сельскагаспадарчая адукацыя. Сяляне пачалі кантрактаваць фасолю, цыбулю і трускалкі, пачалі праводзіць курсы варэння, крою і шыцця. На Сакольшчыне за мінулыя два гады пабудавана шмат вясковых крам, а ў Крынках — механічную пякарню.

За справаздачны перыяд сакольская партыйная арганізацыя пабольшылася на 405 новых членаў і кандыдатаў. У 12 наступных вёсках арганізаваліся партыйныя арганізацыі.

**А. С. Саколка**

## Komunikat MO

Komenda Wojewódzka MO w Białymstoku informuje i przypomina o obowiązku wymiany dowodów osobistych wystawionych w roku 1956 i 1961, których termin ważności upływa do 31. XII. 66 r.

Zainteresowani obywatele winni zgłaszać się do Komend Powiatowych MO we wszystkich dniach roboczych w godzinach od 8.00 do 16.00, natomiast w soboty w godzinach od 8.00 do 14.00. Obywatele miasta Białegostoku — każdego dnia oprócz świąt od 12.00 do 16.00 i w soboty od 12.00 do 14.00.

Dowody osobiste wystawione w latach 1955, 1957, 1958, 1959 i 1960 utraciły ważność i o ile są wypadki ich posiadania — bezzwłocznie dokonać wymiany, gdyż dalsze posługiwanie się nimi podlega odpowiedzialności karnej.

Jednocześnie Komenda Wojewódzka MO informuje, że do wymiany przyjmowane są także dowody osobiste wystawione w latach 1952, 1953 i 1954 — mimo że termin ich ważności upływa w przyszłych latach, to jest: z roku 1952 — tracą ważność w 1967 r., z roku 1953 — w 1968 r. oraz z roku 1954 —tracą ważność w 1969 r. (wg. dat wydania).

Przyśpieszenie wymiany dowodów osobistych wydanych w latach 1952, 1953 i 1954 (a w szczególności zniszczonych) —leży w interesie Obywatela i Państwa.

### ПАЖАРНІКІ САКОЛЬШЧЫНЫ

Супрацьпажарная арганізацыя Сакольшчыны ў сваіх радах налічвае 1000 чалавек аб'яднаных у 62 добраахвотніцкіх пажарных камандах. Амаль усе яны ўзброеныя ў навейшую супрацьпажарную тэхніку. Каб пажары не паўставалі, неабходна, каб усё насельніцтва вёсак і мястэчак дакладна выконвала супрацьпажарныя загады. На жаль, на гэтыя загады вельмі часта не звяртаюць увагі. У першым паўгоддзі 1966 года было на 7 пажараў больш, чым у аналагічным перыядзе 1965 года. Трывожнай з'явай з'яўляецца той факт, што ў гэтым годзе большасць пажараў выклікалі не дзеці, як гэта было ў мінулым годзе, але людзі дарослыя, пажылыя. Як вядома, стыхія агню прыносіць аграмадныя шкоды. І так, напрыклад, пажар у Рудках панёс з дымам 22 будынкі. Спаленая маёмасць акрэсліваецца сумай блізка 1 мільёна зл. Падобных пажараў на Сакольшчыне ў першым паўгоддзі было 21.

**К. П.**
Сакольшчына

### ПРЫМАЦКАЯ ХВАРОБА

Ёсць на Гайнаўшчыне вёска Збуч, у якой жыве шмат хворых жанчын на гультайства. Яны да лекара не хочуць ісці, а прыкідваюцца такімі хворымі, што бедныя мужы мусяць і сваю і жаночую работу выконваць, мусяць даглядаць дзяцей, карміць свіней, даіць кароў і т.д. І што цікава, хваробы заўсёды прыпадаюць на рабочы час, на жніво, на капанне бульбы, на сенаванне. Кабеты зусім здаровыя, калі пароблены ўсе работы, калі ёсць час пайсці ў госці, пагуляць, патанцаваць. А вось цэлы тыдзень «масленай», калі па традыцыі цэлых 7 дзён гуляюць сяляне, або на большыя святы і каля «Космы і Дзямяна» гэтыя жанчыны такія здаровыя, такія гулякаватыя, што проста дзіву даюцца многія гледзячы на іх. Гэтую жаночую хваробу называюць у Збучу «прымацкай хваробай».

На падставе лісту Р. І.
за Збуча




Дарагое Сэрцайка!

«Вучуся ў 8-мым класе пачатковай школы. Я хацела б даведацца, ці ў Беластоку ёсць парыкмахерская школа. Калі так, дык падай мне яе адрас і паінфармуй мяне, калі трэба складаць прашэнні аб прыняццё ў гэтую школу. Буду табе вельмі ўдзячная», — піша Зіна з Беласточчыны.

Адказваю:

У тваёй справе звярнуліся мы да Zasadniczej Szkoły Centralnego Związku Pracy ul. Nowotki Nr. 1 w Białymstoku, дзе нас паінфармавалі, што ў гэтым годзе ёсць І-шы клас такой школы, аднак ці будзе набор у наступным годзе — гэтага дакладна яшчэ не вядома. Таму раю табе звярнуцца пад вышэй паданы адрас вясной б.г. (калі будзе набор у іншыя сярэднія школы) і дакладна даведацца.

«Дарагое Сэрцайка! Часта чытаю твае парады і рашыла напісаць да цябе. Жыву на вёсцы і вучуся ў VIII-ым класе пачатковай школы. Жыву пры бацьку, які паўторна ажаніўся. Мама мая жыве ў Беластоку. Жывецца мне тут не найлепш, і таму мама мая хацела б узяць мяне да сябе. Толькі я не ведаю, ці калі пайду да мамы, змагу скончыць пачатковую школу вечаровую? Ці прымуць мяне ў палове навучальнага года? Парай», — піша Іра з Гайнаўшчыны.

Мы звярнуліся ў адну пачатковую вечаровую школу ў Беластоку, дзе даведаліся, што ў вечаровых школах няма VIII-га класа, праграма навучання сямікласная, і таму раю табе кончыць пачатковую школу ў сваёй вёсцы (ужо ж мала засталося), а потым можаш пераехаць жыць да маці.

**Сэрцайка**



Параванне бульбы.

### ПУНКТЫ АДКОРМУ СВІНЕЙ

У хуткім часе будуць пераказаны ў карыстанне пункты адкорму свіней у Гацьках і Райску (Бельскі павет). На працягу аднаго года будзе адкормлівацца тут 7200 штук свіней. Падрыхтавана ўжо 1170 тон бульбы для адкорму, з гэтага 600 тон будзе спарованых.

Тэкст і фота
**П. Зінкевіч**

### АРКАДЗЬ ГАРУСТОВІЧ

Аптэчны і фельчарскі пункт у Старым Ляўкове існуе ад 1961 года. Працуе ў ім Аркадзь Гарустовіч. Апрача сваіх штодзённых абавязкаў арганізуе ён сярод жанчын гігіенічныя конкурсы, выступае з гутаркамі на сходах у паасобных вёсках аб шкоднасці спажывання алкаголю, вядзе вялізную прафілактычную работу.

Аркадзь Гарустовіч наведвае часта школы, гаворыць аб неабходнасці чышчэння зубоў, аб асабістай гігіене. У Ляўкове запланавана ўтварыць лекарскую спулдзельню і пабудаваць адпаведнае для гэтага памяшканне. Патрэбна акрэсленая колькасць членаў, патрэбны грошы. І тут Аркадзь Гарустовіч не мала пакладае працы, каб сабраць уклады ад паасобных членаў спулдзельні і заахвоціць да членства большую колькасць асоб.

**Янка Цялушэцкі**
Старое Ляўкова

### СПАРТЫЎНЫМ УЛАДАМ БЕЛАСТОКА І ГРОДНА

Акруговае праўленне спартыўнага клуба Польскага саюза глуханямых у Беластоку просіць аб пасрэдніцтва ў навязанні спартыўнага кантакту з асяроддзем глуханямых у Гродне або ў Мінску. Нам выдаецца, што справу можна ўладзіць праз рэдакцыю «Гродзенскай праўды».

У нашым клубе маем наступныя секцыі: мужчынскага баскетболу, настольнага тэнісу, шахматную і стралковую.

Група 10—12 чалавек магла б разыграць 2—3 матчы ў паданых вышэй галінах спорту, у час аднаго спаткання. Спатканне і рэванж хацелі б правесці на працягу аднаго года. Рэч ідзе пра 1967 год. У выпадку, калі б мы знайшлі партнёра, тады арганізацыйныя і фармальныя справы ўладзілі б згодна з існуючымі правіламі.

З пашанаю

сакратар Альбін Чэх — старшыня клуба Ян Стульгіс

Ад рэдакцыі: Падтрымліваем і адрасуем просьбу кампетэнтным спартыўным уладам Беластока і Гродна.

### НІШЧЭЕ СВЯТЛІЦА

У святліцы ў Райску ад даўжэйшага часу пабіта на даху некалькі чарапіц. У час дажджу нацякае ў святліцу шмат вады. Каб прайсці — патрэбны гумовыя боты. І так нішчэе святліца на вачах усіх жыхароў вёскі, на вачах вясковых арганізацый.

**Янка**
Бельскі павет

### ПЫТАННЕ І АДКАЗ

У бліжэйшыя гады дастаўкі мінеральных угнаенняў павялічацца амаль у **чатыры** разы ў параўнанні да цяперашніх. Што ж гэта будзе, калі нават цяпер застаецца нераспраданымі шмат мінеральных угнаенняў?

Наша беластоцкая зямля не атрымоўвае нат' пятай долі патрэбных ёй мінеральных угнаенняў. (ся)

### НАПІШЫЦЕ НАМ

Сельскагаспадарчыя гурткі ў Вераб'ях і Рахвалаўцы (Беластоцкі павет) пазычылі машыны для вырабу будаўнічых матэрыялаў. Аднак, як чуваць, ніякіх будаўнічых матэрыялаў там не робіцца, машыны стаяць бяздзейна. Беластоцкія павятовыя ўлады тлумачаць гэту «бяздзейнасць» недахопам адпаведных будаўнічых законаў... Раз так выглядаюць справы, дык пашто напазычалі машын, за якія трэба плаціць грашыма з даходаў гэтых гурткоў?

Уся справа выдаецца нам дзіўнай. Таму добра было б, каб вось старшыня актыўнага сельскагаспадарчага гуртка ў Вераб'ях, Вацлаў Залеўскі, забраў голас на старонках «Нівы» наконт усяго таго. Просім!

(ся)

## КІНО

**Праграма на 13—18.XII.1966 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Wehikuł czasu" (USA), 13—14. „40 dni" (jugosł.), 15—16. „Czarny monokl" (franc.), 17—18.

**Кляшчэлі**
„Bestia" (węgierski), 13 — 14. „Dwaj panowie N" (polski), 15—16. „Sposób bycia" (polski), 17 — 18.

**Дубіны**
„Karambol" (węgierski), „Romans z nieznajomym" (USA), 17 — 18.

**Нарва**
„Yanco" (meksykański), „Niedziela sprawiedliwości" (polski), 14 — 18.

**Нараўка**
„Obok prawdy" (radz.), „Podróż nie z tej ziemi" (jugosł.), 14 — 18.

**Чыжы**
„Pociąg na tyły" (radz.), „Macario" (meksykański), 14 — 18.

**Дубічы Царкоўныя**
„Miłość jednej nocy" (radz.), „Dylemat" (duński), 14 — 18.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Dwie noce jednego dnia" (jugosł.), „Giuseppe w Warszawie" (polski), 14 — 18.

**Орля**
„Noc przedślubna" (czeski), „12 milionów Holendrów" (holenderski), 14 — 18.

**Райск**
„Kanciarze i spółka akcyjna" (angl.), „Dworek 4-ech dziewcząt" (węgierski), 14 — 18.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Sprawa Barnaby Kosa" (czeski), „Kochankowie z Marony" (polski), 13 — 16.

**Міхалова**
„Bambir" (USA), 13—14. „Tomasz oszust" (franc.), 15 — 16. „Dzwony dla bosych" (czeski), 17 — 18.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Bambi" (USA), 13 — 14. „Zabawa w muzeum" (węgierski), 15 — 16. „Panie inspektorze" (jugosł.), 17 — 18.

**Мілейчыцы**
„Strachy zamku Spessart" (NRF), 13 — 14. „Alibi nie wystarczy" (czeski), 15 — 16. „Okno na Lunapark" (włoski), 17—18.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Diabelska przepaść" (czeski), 13 — 14. „Profesor Mamlock" (NRD), 15 — 16. „Zemsta OAS" (franc.), 17—18.

**Шудзялава**
„Kronika jednego dnia" (radziecki), 13—18. „Rękopis znaleziony w Saragossie" (polski).

**Сідра**
„Jak się młody Noszty żenił" (węgierski), 13 — 14. „Nieletni świadek" (angl.), 15 — 16. „Wierność" (radz.), 17 — 18.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Mam tu swój dom" (polski), „Kto jest bez winy" (radziecki), 17 — 18.

**Ліпск**
„Czarne skrzydła" (polski), „Kapral i inni" (węgierski), 17 — 18.

## НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa. Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP ;Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6.998 Białtk. D-2

Строга сакрэтна!

# Што гаварыць аб начальніку

**Калі начальнік прыходзіць на работу ў час. «Гэта ён наўмысна, каб да нас потым прыдзірацца!»**

**Калі ён спазняецца: «Вядома, яму ўсё можна!»**

**Калі ён пытаецца, як жыве сям'я супрацоўніка: «Вечна нос у чужыя справы суне».**

**Калі ён не пытаецца, як жыве сям'я супрацоўніка: «Да людзей яму і справы няма».**

**Калі ён просіць уносіць прапановы: «У самога-та галава пустая!»**

**Калі ён сам уносіць прапановы: «Заўсёды ўсё па-свойму робіць».**

**Калі ён хутка прымае рашэнні: «Усё ў яго наспех!»**

**Калі ён памалу прымае рашэнні: «Няма ў яго ніякай рашучасці».**

**Калі ён збіраецца пашырыць штат: «Хварэе на манію вялікасці».**

**Калі ён не збіраецца пашыраць штат: «Выязджае на нашым горбе».**

**Калі ён абыходзіць якія-небудзь пастановы: «Сумленя няма ў чалавека».**

**Калі ён прытрымліваецца правіл і пастаноў: «Акасцянелы біўракрат».**

**Калі ён жартуе: «Гэтыя ідыёцкія жарткі...»**

**Калі ён не жартуе: «Ты хоць раз бачыў, каб ён усміхнуўся?»**

**Калі ён прыслухоўваецца да радаў: «Сам ён ні на што не здольны».**

**Калі ён не прыслухоўваецца да радаў: «Самаўпэўнены і ганарысты».**

**Калі ён ветлівы: «Заваёўвае танны аўтарытэт».**

**Калі няветлівы: «Задаецца».**

**Калі ўстанова, якою ён кіруе, працуе добра: «Нічога дзіўнага, усю работу цягнем мы».**

**Калі ўстанова працуе дрэнна: «Мы-та пры чым? Начальнік жа ж у нас нікудышні».**

# НІЎКА

**ХАМУТ**

Адзін хамут
Віной, што конь — у мыле.
Бо з тых мінут,
Калі яго пашылі,
Сядзіць хамут
ў каня на шыі.

**Яўген Верабей**

Са спорту



— Рабі саскок, табе гавару!




— Мой новы капялюш мае нябачаны поспех! Група мужчын стаіць перад тэлефоннай кабінай і не перастае здзіўляцца.

**КРЫВА МАХАЕ, РОЎНА Б'Е**



Прыехалі нейк тры паны ў вёску. Ідуць вуліцай, выхваляюцца. Вось адзін і кажа:
— Я магу падужаць пяцярых мужыкоў.
— А я, — кажа другі, — дзесяцярых.
— А я, — кажа трэці, — пятнаццаць.

Гэту размову пачуў селянін, які якраз малаціў на таку, ды і выйшаў ім насустрач.

Першыя двое адразу ўцяклі, а трэці вырашыў паспрабаваць сваю сілу. Селянін яго так цэпам агрэў, што пан толькі пятамі заківаў і пабег за тымі двума панамі.
— Ну, як, падужаў? — пытаюць яны.
— Ды падужаў бы, — кажа панок, — каб у яго не было ў руках нешта такога, што крыва махае, а роўна б'е.

**У АПТЭЦЫ**

ХЛОПЕЦ: — Дайце якога парашку на змяншэнне болю.

АПТЭКАР: — Каму?

ХЛОПЕЦ: — Мне. Разбіў люстра, дык бацька будзе біць.

**АПРАЎДАЎСЯ**

— Вас абвінавачваюць, што вы ўкралі чатыры пуды жалеза. Што вы скажаце ў сваё апраўданне?

— Што мне было вельмі цяжка несці, пане суддзя.

**У ЛЕКАРА**

Лекар (да хворага): — Думаю, што тут справа са сляпою кішкаю.

Хворы: — Але ж я не маю сляпой кішкі, я ўжо быў аперыраваны на сляпую кішку.

Лекар: — Тым лепш, не трэба будзе аперыраваць другі раз...

**ПЕРШЫ ЦІ ДРУГІ?**

Старшы афіцэр пасажырскага парахода ветліва паказвае пасажырам дарогу да іх кают. У кожнага ён пытае:
— Першага ці другога класа?

Разам з іншымі пасажырамі на параход падымаецца па трапу маладзенькая дзяўчына з маленькім дзіцём на руках.
— Другі ці першы? — ветліва спытаў афіцэр.
— Дык гэта ж зусім не мой!
— абурана адказала дзяўчына.

**ФУТБАЛІСТ**

Два балельшчыкі вяртаюцца з матча. Малодшы, які ўпершыню трапіў на вялікі футбол, гаворыць:
— Ты ведаеш, тата, хто лепш за ўсіх гуляў бы ў футбол?
— Гм... А хто?
— А той барадаты дзядзька, які сядзеў каля нас і ўсё крычаў, што футбалісты не так гуляюць, як трэба было б.

**ШЧЫРАЯ РАЗМОВА**

— Добры дзень, кума!
— На рынку была.
— Што ты глухая, кума?
— Не, замест рыбы купіла парася.
— Бывай здарова, кума.
— Пяць злотых заплаціла.
— Мне зусім не цікава, колькі заплаціла.
— Не, кумок, я не ўцякала, а заплаціла ды панясла.



Усё людское нам не чужое.

**ПРЫЧЫНА**

Бацька: — Калі ты, нарэшце, выправіш свае двойкі?

Сын: — Не ведаю, тата. Напэўна, не выпраўлю, бо наша настаўніца ніколі не пакідае журнал у класе.

**ПАЦЕШЫЎ**

Адна баязлівая курортніца, едучы лодкай цераз рэчку, пытае перавозчыка:
— Скажыце, калі ласка, ці былі такія выпадкі, каб тут нехта ўтапіўся і прапаў?
— Не! У нас ніхто не прападаў. Калі і ўтапіўся, то мы, хоць на другі дзень, а ўсё роўна яго зловім, — спакойна адказаў перавозчык.

**ДЗЕ СТРЫГСЯ?**

— Часам не ў вас я апошні раз стрыгся? — пытаецца хлопец з доўгімі валасамі ў цырульніка.
— Сумняваюся. Я тут працую ўсяго другі год.

Песні па заяўках

По просьбе Янкі Ляшука з Беластока, змяшчаем песню п.з.

## Волга—реченька

Русская народная песня в обработке А. Семенова

Волга-реченька глубока
Бьет волнами берега.
Он уехал, не простился,
Знать, любовь не дорога.

Ой, туманы голубые,
Серебристая волна,
Неужели ко мне милый
Не вернется никогда?

Цвела вишня всем на диво,
Ветром скуло белый цвет.
Издалека с буйным ветром
Милый мне прислал привет.

Возле бережка крутого
День и ночь волна шумит.
Хорошо любить такого,
Кто любовью дорожит.

**НЕ ЯГО ВІНА**



Бацька: — Пятрусь, не цягні ката за хвост!

Пятрусь: — Я не цягну... Я толькі трымаю яго, а ён сам цягне.

**ЛЕПШЫ ВЫХАД**



— Як вы можаце з гэтым чалавекам так доўга гаварыць?

— Каб я не гаварыў, дык вымушаны быў бы яго слухаць, а гэта яшчэ цяжэй!..

**ВАРЫЯЦЫІ НА КАНТРАБАСЕ**

Маленькі Алік, якога мама ўзяла з сабою на сімфанічны канцэрт, з захапленнем слухаў варыяцыі, якія віртуозна выконваў адзін з музыкантаў на кантрабасе. А калі яму слухаць надакучыла, дык ён і кажа маме:

— Мамачка, як гэты дзядзька перарэжа скрыпку, дык мы тады ўжо дамоў пойдзем.

**ЗМАРЫЎСЯ**

ПАРАБАК: — Пане гаспадар, я страшна замучаны, не магу касцей падняць.

ГАСПАДАР: — А гэта што за навіна? Цэлую ноч хроп, як мядзведзь.

ПАРАБАК: —Э-ге, вам гэта так здаецца, а мне снілася, што я дзве капы змалаціў і салому павязаў, а цяпер цяжка рукамі кранунць — гэтакі я замучаны.

— Лекар дазволіў яму на кілішак гарэлкі ў дзень.

Гітлер жыве... у Амерыцы.

**ЗБРЫДЛА**

**— Апошні раз кажу вам: аддайце, урэшце, мае 100 злотых.**

**— О, гэта добра, што апошні раз, бо мне ўжо збрыдла кожны раз слухаць вас.**




ПОМСТА ЭКС-МЭРА

*Старшыня абшчыны аўстрыйскай вёскі Гайсхорн цэлых дваццаць год кіраваў сваімі аднавяскоўцамі. І калі яны ўрэшце не выбралі яго на апошніх выбарах, экс-мэр вырашыў адпомсціць вёсцы. У першую ж ноч пасля выбараў ён выйшаў са сваім сынам на футбольнае поле, заараў яго і засеяў. Пратэсты жыхароў вёскі не мелі поспеху: выявілася, што гэтае поле — уласнасць былога старшыні.*

МАЎКЛІВЫЯ І ГАВАРКІЯ

*Шведскі этнограф доктар Странберг апублікаваў вынікі сваіх даследаў, праведзеных на пяці кантынентах. Паводле яго, найбольш маўклівая нацыя — фіны, а найбольш гаваркія і гучныя — італьянцы, бразільцы і мексіканцы.*

АБ'ЯВА

*У адным магазіне ў штаце Канзас вывешана аб'яву: «Мы патрабуем задатак у суме 50 працэнтаў ад пакупнікоў, якіх мы не ведаем, і 100 працэнтаў ад некаторых, каго мы ведаем».*




**Не вер ветру. У любую хвіліну ён можа павярнуцца і пачаць дзьмуць зусім у другі бок.**